№ 1 (124)

# ПАХОДНЯ

*грамадска-палітычная газета*

Люты 2012 г.

## Старыя песні пра заробкі ў 500 долараў



*Чыноўнікі пачалі гаварыць аб падвышэнні заробкаў, - к выбарам (з народных прыкмет).*

У мяне апошнім часам складваецца ўражанне, што для беларускіх чыноўнікаў самага высокага рангу распавядаць казкі і вешаць локшыну (лапшу) на вушы прадстаўнікам простага народа з'яўляецца любімым заняткам. Неабходна адзначыць, што больш усяго казачнікаў сярод чынавенства з'яўляецца якраз напярэдадні разнастайных выбарчых кампаній. Вось і зараз, да так званых "выбараў" у Нацыянальны Сход яшчэ далёка, а казкі пра чакаемы небывалы рост даходаў простых людзей пачалі распавядаць самыя розныя "кадры". Самае цікавае, што знаходзяцца людзі, якія гэтым казачнікам вераць нават зараз, калі ўся краіна яшчэ працягвае расхлёбваць усе наступствы штучнага падвышэння зарплат у 2010 годзе.

Пра магчымасць таго, што беларусы атрымаюць сярэднюю зарплату ў памеры 500 долараў ЗША ўжо ў гэтым годзе заявілі старшыня Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка і старшыня Нацыянальнага банка Надзежда Ермакова. Пасля Аляксандр Рыгоравіч выразна заявіў, што даходы насельніцтва вернуцца на дакрызісны ўзровень. Аптымізму дадае і Нацбанк, які абвесціў пра паніжэнне стаўкі рэфінансавання. Удзячным беларусам застаецца толькі пусціць шчаслівую слязу і падзячыць Бога за сваё мудрае кіраўніцтва. Праўда, толькі тады, калі яны канчаткова запалі ў маразм і забыліся, да чаго прывяло штучнае падвышэнне заробкаў напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Тады сярэднюю зарплату больш за 500 долараў мы ўжо быццам бы атрымалі...

Ёсць просты эканамічны закон, - заработную плату можна падвышаць на ўзровень, не большы за ўзровень падвышэння прадукцыйнасці працы, тады не будуць расці цэны і не будзе раскручвацца інфляцыя. У іншым выпадку заробкі можна падвысіць за кошт набірання пазык альбо ўключэння друкавальнага станка. Аднак пазыкі ў любым выпадку трэба вяртаць, а пасля ўключэння друкавальнага станка грошы ў хуткім часе ператвараюцца ў фанцікі, што мы і назіралі ў мінулым годзе. Калі вы, шаноўныя чытачы, думаеце, што нашы чыноўнікі ад улады гэтай простай ісціны не ведаюць, то вы памыляецеся. Проста яны распавядаюць вам казкі, каб вы і найдалей спалі спакойна пад іх мудрым кіраўніцтвам.

Каб не паказацца вам галаслоўным, прывяду словы намесніка міністра эканомікі Аляксандра Ярашэнкі, якія ён сказаў на прэс-канферэнцыі 8 лютага, ужо пасля гучных заяў больш высокіх кіраўнікоў.

**(Заканч. на ст. 2)**

## Былыя падначаленыя палкоўніка Юрыя Сіманава трапілі за краты

*«Этот из ряда вон выходящий случай тяжёлым пятном лёг на всю милицию Могилёвщины»*

*Газета «На страже» (печатный орган Министерства внутренних дел РБ)*




Напрыканцы мінулага месяца ўвесь беларускі інтэрнэт гудзеў, як растрывожаны вулей з пчоламі. У Клімавічах затрымалі цэлую групу "пераваратняў ў пагонах", супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Згодна афіцыйнай версіі, старшы оперупаўнаважаны Клімавіцкага РАУС, старшы следчы новастворанага Клімавіцкага раённага аддзялення Упраўлення следчага камітэта па Магілёўскай вобласці і начальнік Клімавіцкага РАУС стварылі злачынную групу і шляхам шантажа і пагроз вымагалі ў прадпрымальніка 500 тысяч долараў ЗША. Між тым многія бялынічане добра памятаюць, што да сярэдзіны мінулага года Клімавіцкі РАУС узначальваў наш зямляк, які зараз працуе начальнікам міліцыі ў Бялыніцкім раёне, палкоўнік міліцыі Юрый Сіманаў. Нічога не скажаш, "дастойную

**(Працяг на ст. 3)**


ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# Старыя песні пра заробкі ў 500 долараў

***(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1)***

. А сказаў ён тое, што рост рэальных зарплат у 2012 годзе плануецца ў памеры больш за 4 працэнты і ён будзе прывязаны да росту вытворчасці працы:

*“Мы соотносили ситуацию таким образом, чтобы реальная зарплата росла немного медленнее, чем производительность труда. Прогнозный показатель роста заработной платы на 2012 год составляет чуть больше 4%,а производительность труда за год увеличится, как мы планируем, на 5,7%. И если в начале 2011 года мы имели разрыв между ростом зарплат и производительностью труда на 20 процентных пунктов в пользу зарплат, то в последние месяцы эта тенденция изменилась. Сейчас рост зарплат отстает от роста производительности. И эту тенденцию мы собираемся сохранить. Прежде всего, чтобы не разогревать инфляционные процессы. А это тот огромный минус, который сложился по результатам 2011 года”.*

Вось яна, рэальная сітуацыя, а не казкі больш высокіх чыноўнікаў пра заробак у 500 долараў ужо ў гэтым годзе. Канешне, па загаду зверху зноў можна надрукаваць пустыя грошы, але пасля так ляснемся, што пра “стабілізацыю” забудземся, як забыліся пра “моцную квітнеючую Беларусь”...

Сваё меркаванне наконт чарговых напалеонаўскіх планаў беларускіх чыноўнікаў выказаў і вядомы беларускі эканаміст Леанід Заіка: “Мне падаецца, што ўрад дзее ў кантэксце таго, што абяцаў Лукашэнка: “Да траўня не выправіце сітуацыі – адпраўлю ў адстаўку”. Таму яны цяпер пачынаюць маляваць вясёлкавыя перспектывы. Але гэта пакуль толькі фразы. Пачынаецца такі наменклатурны пад’ём эканомікі, які, мы памятаем, летась да нічога добрага не прывёў”, – нагадаў Леанід Заіка.

Яшчэ больш жорстка ён выказаўся наконт вынікаў эканамічнай палітыкі дзеючага кіраўніка краіны: “Аляксандр Рыгоравіч проста ляснуўся з усёю эканамічнаю палітыкаю – поўны праваліл. І калі людзі маўчаць – то яны проста не могуць усвядоміць, што адбылося. На кожнага беларуса цяпер 2500 долараў доўгу. Можам зайсці ў любую сям’ю з чатырох чалавек і сказаць: “Вы на 10 000 долараў набралі пазыкаў. Пакажыце, што ў вас на 10 000 долараў ёсць у кватэры”. Гэта будзе нямая сцэна”, – кажа спадар Заіка.

Напрыканцы артыкула, шаноўныя чытачы, прывяду некалькі лічбаў, каб вы ведалі, на якім узроўні знаходзіцца заработная плата ў “моцнай квітнеючай Беларусі” у параўнанні з іншымі краінамі. Так, у снежні 2011 года сярэдняя зарплата беларуса складала $342, расейца - $988, казаха - $643. Сярэдняя пенсія ў Беларусі ў снежні была $111, у Расіі - $276, Казахстане - $185. Для параўнання: сярэдняя налічаная зарплата сярэдняга немца ў канцы 2011 года складала $3870, шведа - $3350, іспанца - $2900, грэка - $2800. У самых няшчасных краінах ЕС Румыніі і Балгарыі зарплаты дасягнулі $1150 і $890.

***Іван Барысаў***

***Цифры и факты***

Средняя зарплата в декабре: 2 877 658 рублей
Минимальная зарплата в Беларуси: 1 000 000 рублей
Бюджет прожиточного минимума: 706 880 рублей
Минимальный потребительский бюджет для семьи из 4 человек: 1 101 440 рублей

# У многіх сельскіх працаўнікоў заробак ніжэй за мінімальны



Магілёўская абласная аграпрамысловая газета “Зямля і людзі” у адным са студзеньскіх нумароў пад рубрыкай “Ярмарка вакансій” апублікавала “актуальную інфармацыю аб наяўнасці свабодных месцаў у арганізацыях Магілёўскай вобласці, а таксама звесткі аб памерах заработнай платы і наяўнасці вольнага жылля”. Адразу некалькі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў вобласці абяцаюць плаціць сваім працаўнікам заробкі, ніжэйшыя за мінімальную заработную плату.

У прыватнасці, у СВК “Калгас “Зара камуны” Глускага раёна аператар машыннага даення зможа атрымаць 925520 рублёў, а кваліфікаваным спецыялістам, - аграному, ветэрынарнаму ўрачу і заатэхніку - у СВК “Калгас “Зара” гэтага ж раёна абяцаюць заплаціць аж на цэлых пяць тысяч болей, - па 930000 рублёў.

Заробкі, ніжэй за мінімальны, плацяць і ў СВК “Прывольны” Слаўгарадскага раёна. Тут бухгалтар, ветэрынарны фельшар, заатэхнік-селекцыянер і трактарысты-машыністы змогуць зарабіць па 950000 рублёў, ну а тэхніку па племяннной справе і электрагазазваршчыку пашчасціла меней, яны атрымаюць па 930000 рублёў.

Незразумела, як стасуюцца

***(Заканчэнне на ст. 4)***

# Былыя падначаленыя палкоўніка Юрыя Сіманава трапілі за краты

(Працяг. Пач. на ст. 1)

замену" выхаваў сабе ў Клімавічах Юрый Пятровіч.

Дарэчы, пасля сыходу Юрыя Пятровіча на новае месца службы ў Бялынічы, на пасаду начальніка аддзела ўнутраных спраў Клімавіцкага райвыканкама летам 2011 года быў прызначаны Арцёменка Аляксандр Леанідавіч. На момант прызначэння гэтаму маладому хлопцу было толькі 32 гады, ён вельмі хутка атрымаў званне падпалкоўніка. Як кажуць, супраць фактаў не папрэш, таму не магу не ўзгадаць, што менавіта Аляксандр Арцёменка з снежня 2008 года па ліпень 2011 года працаваў першым намеснікам начальніка Клімавіцкага РАУС Юрыя Сіманава. Вельмі цікава, хто ажыццяўляў падбор кадраў і рэкамендаваў гэтага маладога чалавека на яшчэ больш адказную пасаду.

Вынікам такой "працы з кадрамі" стала тое, што 18 студзеня, пры атрыманні чарговай часткі грошай у памеры 500 тысяч расійскіх рублёў (нядрэнныя апетыты ў нашых праваахоўнікаў, - кам. аўтара), супрацоўнікі "Алмаза" затрымалі спачатку старшага оперупаўнаважанага Клімавіцкага РАУС і старшага следчага Клімавіцкага райаддзела упраўлення Следчага камітэта, а пасля і "замену" Юрыя Пятровіча на пасадзе начальніка Клімавіцкай міліцыі...

Каб не быць галаслоўным і не атрымаць абвінавачванне ў тым, што "праклятыя апазіцыянеры брэшуць на нашу доблесную міліцыю" прывяду некаторыя выказванні з афіцыйных крыніц. У прыватнасці, пракурор Магілёўскай вобласці Эдуард Сенкевіч у адказах інфармацыйнаму агенцтву "Белапан" выказаў такое верагоднае тлумачэнне адбыўшагася : "Было неудачное назначение начальника РОВД. Стоит вопрос в плоскости кадрового подбора данного лица".




У больш жорсткай форме выказаў свой каментарый на сайце газеты адміністрацыі прэзідэнта "Советская Белоруссия" нейкі "Сидоров" (паверце мне на слова, выпадковы каментарый там проста не з'явіцца): «Установлено, что в преступную группу входил также начальник Климовичского РОВД» - отмечается в публикации. Задержание злодеев – несомненный успех новой структуры. Но куда смотрели соответствующие кадровые службы, ставя на руководящую должность человека с нижайшими моральными и волевыми качествами, когда алчность затмила святые офицерские понятия о чести и долге? Кто выдвигал и согласовывал этого «кадра» на должность? Полагаю, что все «согласовальщики», допустившие вопиющий кадровый прокол, должны быть немедленно уволены из органов».

Думаю, што мне каментаваць ужо больш нічога не трэба...

Праўда, не магу не адзначыць, што ў сувязі з затрыманнем "пераваратняў у пагонах" у Клімавічах, у шэрагу артыкулаў узгадалі яшчэ пра шэраг знакавых асобаў, якія звязалі свой лёс з Бялыніцкім раёнам. У прыватнасці, вядомы беларускі журналіст Віктар Федаровіч напісаў артыкул «Мафия в Климовичах бессмертна?", які быў змешчаны на інтэрнэт-сайце naviny.by, дзе ўзгадаў нашага земляка, прызнанага "Чалавекам года" Бялыніцкага раёна ў 2011 годзе, дырэктара ААТ "Новая Друць" Уладзіміра Канавалава. Вось што піша Віктар Федаровіч: "Дел мафиозных в этом районе творилось немало. В 2005 году Гомельский областной суд приговорил бывшего председателя Климовичского райисполкома Владимира Коновалова к 4 годам лишения свободы за превышение служебных полномочий. По материалам следствия суд счёл доказанным два эпизода. Один из них датировался 1999 годом, когда глава районной администрации дал указание неизвестным лицам изготовить фиктивное письмо за подписью министра сельского хозяйства в адрес директора Климовичского ликёро-водочного завода об обязательном перечислении предприятием 5 млрд. рублей на счёт Климовичского райсельхозпрода".

(Заканч. на ст. 4)

# Человек замёрз насмерть прямо в доме

Как сообщили в контрольно-методическом отделении управления по Могилевской области госслужбы медицинских судебных экспертиз РБ, в морозные дни только января нынешнего года на Могилевщине погибло от общего переохлаждения 14 человек. Пять из них – в трудоспособном возрасте, девять – пенсионеры. В состоянии алкогольного опьянения было пятеро замерзших.

По-разному настигла этих людей смерть. Кто-то не смог добраться до дома из-за того, что был пьян, а другой, как один из жителей Кировского района, замерз в жилище, где за неуплату были отключены коммунальные услуги.

Вот такое оно, социально ориентированное государство, - "Сильная, процветающая Беларусь"...




# Былыя падначаленыя палкоўніка Юрыя Сіманава трапілі за краты

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1, 3)*

Узгадаў Віктар Федаровіч і пра былога Клімавіцкага суддзю Ігара Цішкіна, які збег разам з сям'ёй праз Украіну ў Польшчу, дзе атрымаў палітычны прытулак. Па словах былога суддзі, які знаходзіцца зараз у міжнародным вышуку, Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод штогод пастаўляў у Расію тоны "чорнага" спірта, і адбывалась гэта пад пільным кантролем мясцовых уладаў. Ігар Цішкін даў у Польшчы некалькі інтэрв'ю, адно з якіх мой знаёмы журналіст у кастрычніку 2010 года змясціў на партале "Открытая Беларусь". Чамусьці вельмі не ўзлюбіў былы клімавіцкі суддзя нашага Юрыя Пятровіча Сіманава. Вось якія брыдасці кажа Ігар Цішкін пра тагачаснага начальніка Клімавіцкага РАУС : "Из моих российских, беларуских источников поступает информация о том, что контрабанда метала и спирта идёт по сей день. Могу с уверенностью сказать, что не последнюю роль в этом играет действующий начальник Климовичского РОВД Симонов Юрий Петрович. На одной из закрытых вечеринок, по случаю Дня милиции, Симонов, в присутствии коллег, и находясь в состоянии алкогольного опьянения, заявил: "Я должен убрать Тишкина из района, это приказ с верху". Кто мог отдать такой приказ не трудно догадаться. Моим делом занималось лично КГБ".

Аднак больш падрабязны расповед пра клімавіцкія прыгоды нашых сучасных бялыніцкіх кадраў, - тэма зусім іншага артыкула. Чытайце "Паходню", шаноўныя чытачы, і вы абавязкова даведаецеся вельмі шмат цікавых фактаў.

***Сяргей Семяновіч***

# У многіх сельскіх працаўнікоў заробак ніжэй за мінімальны

*(Заканчэнне. Пач. на ст. 2)*

такія заробкі з выкананнем пастановы Савета Міністраў ад 9 снежня 2011 года нумар 1666, якая ўступіла ў сілу з 1 студзеня 2012 года. Згодна пастановы, мінімальная заработная плата ў Беларусі з 1 студзеня 2012 года ўстанаўліваецца ў памеры Br1 млн. Але якая справа да выканання пастановы Саўміна і забеспячэння правоў працаўнікоў сельскай гаспадаркі абласным чыноўнікам. Між тым, заробкі ў сельскай гаспадарцы, якую "падымаюць" не адзін год, па-ранейшаму застаюцца на самым нізкім узроўні ў краіне.

У зімовы перыяд з мэтай эканоміі грашовых сродкаў у многіх гаспадарках Магілёўскай вобласці працаўнікі, акрамя занятых у жывёлагадоўлі і на абслугоўванні жывёлагадоўчых фермаў і комплексаў, у масавым парадку пераведзеныя на скарочаны працоўны дзень. Гэта значыць, што яны не змогуць зарабіць нават мінімальныя грошы, каб забяспечыць прыстойны ўзровень існавання. Аднак такія дзеянні адміністрацый сельгаспрадпрыемстваў не выклікаюць ніякіх пярэчанняў з боку прадзяржаўных прафсаюзных арганізацый. Яны свае неблагія заробкі атрымліваюць своечасова і ў поўным памеры...

***Багдан Іваноў***

## Только факты

В 2011 году в сфере сельского хозяйства зарегистрировано 166 коррупционных преступлений, в том числе 100 фактов хищения путем злоупотребления служебными полномочиями, 8– злоупотребления властью или служебными полномочиями, 5 – превышения власти или служебных полномочий, 1– бездействия должностного лица, 52– взяточничества.

# Рыгор Кастусёў: Каму выгодна ўтрымліваць гэтую прорву?



*Рыгор Кастусёў. Наместнік старшыні Партыі БНФ, экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на выбарах-2010. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Цяхцін Бялыніцкага раёна. У 1982 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спэцыяльнасці інжынер-механік. Служыў у Савецкай арміі, працаваў галоўным інжынерам, дырэктарам саўгаса, дырэктарам Шклоўскага раённага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У 2001 годзе вымушаны быў сысці з пасады пад ціскам уладаў з-за працы ў камандах кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў. Быў дырэктарам сумеснага беларуска-ўкраінскага прадпрыемства. Тройчы абіраўся дэпутатам мясцовых саветаў. Аўтар праграмы развіцця і рэфармавання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь на 2010-2015 гады, прапанаванай Партыяй БНФ.*

Нярэдка шматлікія беларускія чыноўнікі, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі падкрэсліваюць, што ў Беларусі ўсе сельскагаспадарчыя плошчы заўсёды дагледжаны, апрацаваны, і, у адрозненні ад іншых краін былога Сюза, сітуацыя ў сельскай гаспадарцы нашай краіны найлепшая ў параўнанні з іншымі. Нават еўрапейскія краіны былога сацыялістычнага лагеру і іх суседзі, па словах беларускага чынавенства, адстаюць у гэтым плане ад Беларусі. І ўсё гэта прыпадносіцца як дасягненні, атрыманыя дзякуючы “дальнябачнаму, бацькоўскаму клопату” нашага кіраўніцтва.

Але ж ці так гэта? І што, насамрэч, уяўляе на сённяшні дзень сельская гаспадарка нашай краіны?

Агульная плошча сельскагаспадарчых зямель па дадзеных на пачатак 2011 года — 8897,5 тыс. га, што складае каля 1 га на аднаго жыхара Беларусі. Агульная плошча ворыўных зямель — 5510,5 тыс. га, што адпавядае амаль 0,6 га на аднаго беларуса. У краінах Еўрапейскага Саюза дадзены паказчык складае 0,2 га на аднаго чалавека, а , напрыклад, у Германіі — усяго толькі 0,12 га.

З агульнай плошчы ворыўных зямель 4698,2 тыс. га знаходзяцца ў карыстанні сельгасарганізацый, 682,1 тыс. га (каля 12%) — у карыстанні грамадзян (асабістыя і фермерскія гаспадаркі, лецішчы), з іх у карыстанні фермераў — 85,4 тыс. га.

У 2010 годзе вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі склала ў бягучых коштах 35,6 трлн. руб. (55,2% — прадукцыя раслінаводства, 44,8% — прадукцыя жывёлагадоўлі). Каля 2/3 ад агульнага аб'ёма сельскагаспадарчай прадукцыі вырашчана ў дзяржаўных прадпрыемствах (менш паловы прадуцыі раслінаводства, 90% — прадукцыя жывёлагадоўлі). Доля вытворчасці бульбы ў дзяржаўных сельскагаспадарчых арганізацыях склала ўсяго толькі 11,1%, гародніны — 12,9%...

За апошнія 10 год, з 2001 па 2011 гг., у сельскую гаспадарку з бюджэту краіны было накіравана 40 млрд. долараў. Узровень датацый дасягаў 60%. У той жа час дадзены паказчык у еўрапейскіх краінах вагаецца ад 20% да 30%. Практычна ўсе гэтыя сродкі былі накіраваны на падтрымку дзяржаўных прадпрыемстваў АПК.

Нягледзечы на такія агромністыя фінансавыя ўліванні ў сяло, перамен да лепшага там не адбываецца. Аб чым сведчыць падзенне агульнай колькасці сельскагаспадарчай тэхнікі, выкарыстоўваемай на сяле. Напрыклад, паказчык забяспячэння трактарамі знізіўся з 15 трактароў на 1000 га ворыва ў 2000 годзе, да 10 у 2010-м. Аб нізкай эфектыўнасці выкарыстання сродкаў, выдзяляемых для АПК краіны, сведчыць і нізкая да гэтай пары ўраджайнасць зерневых, зернебабовых і іншых

**(Пачатак. Працяг на ст. 6)**

# Рыгор Кастусёў: Каму выгодна ўтрымліваць гэтую прорву?

*(Працяг. Пачатак на ст. 5)*



культур у параўнанні з краінамі Заходняй Еўропы. Нават у такой паўночнаеўрапейскай краіне, як Швецыя, ураджайнасць сельгаскультур, паказчыкі вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі ў 2-3 разы пераўзыходзяць беларускія паказчыкі згодна афіцыйных статыстычных дадзеных.

А нядаўна, 2 снежня 2011 года, выказаў сваю незадаволенасць нізкай эфектыўнасцю выкарыстання сродкаў, укладваемых у сельскую гаспадарку, а таксама работай АПК краіны і А.Лукашэнка ў час працоўнай паездкі ў Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці.

Дык у чым жа прычына? Чаму пры такой масіраванай фінансавай падтрымцы з боку дзяржавы сельская гаспадарка Беларусі па сваіх паказчыках у разы адстае ад еўрапейскіх краін? Чаму пры наяўнасці ў нашай краіне да 0,6 га ворыўных зямель на аднаго чалавека не горшай па якасці чым у астатняй Еўропе, мы ўсё яшчэ вырашаем праблему “харчовай бяспекі”? У той час як Заходняя Еўропа мае праблему збыту прадукцыі сельскай гаспадаркі па прычыне яе перавытворчасці пры наяўнасці ворыўных зямель каля 0,2 га на аднаго жыхара...

Асноўная прычына адсталасці сельскай гаспадаркі Беларусі крыецца ў адсутнасці на зямлі сапраўднага гаспадара, а дакладней — у адсутнасці прыватнай уласнасці на зямлю.

За дваццаць год Незалежнасці Беларусі не змянілася сістэма карыстання асноўным нашым багаццем. Да гэтай пары ў нас захавалася ўродлівая савецкая форма гаспадарання на зямлі ў выглядзе “сталінскіх калгасаў”, створаных у 20-40-х гадах мінулага стагоддзя, нягледзячы на тое, якую назву яны маюць зараз і пад якой шыльдай знаходзяцца.

Да гэтай пары ўсімі працэсамі сельскагаспадарчай вытворчасці, ад апрацоўкі глебы да продажу прадукцыі, кіруюць разнастайныя чыноўнікі з кабінетаў рай- , аблупраўленняў, кабінетаў Міністэрства сельскай гаспадаркі. Агульная колькасць чынавенства з кожным годам павялічваецца, пры тым, што колькасць насельніцтва, занятага ў сельскай гаспадарцы Беларусі за апошнія 20 год скарацілася ў 3 разы. У краіне склалася сітуацыя, што нават ні адзін кіраўнік сельгаспрадпрыемства без дазволу “з верху” не мае права прыняць рашэнне аб збыце прадукцыі свайго прадпрыемства.

Гэтыя ж чыноўнікі распараджаюца і фінансавымі сродкамі, выдзяляемымі дзяржавай для інвеставання сяла. І калі ў заходнееўрапейскіх краінах сродкі даходзяць да гаспадара, да чалавека, які ўладарыць і працуе на зямлі, і ўжо ён прымае непасрэдны ўдзел у прыняцці рашэнняў аб іх выкарыстанні, то ў нашай краіне да сельгаспрадпрыемстваў фінансы праходзяць праз грамаднае сіта чынавенства і выкарыстоўваюцца пад кантролем і з дазволу гэтага чынавенства. Пры гэтым, часцей за ўсё, адказнасці за вынікі таго або іншага рашэння чыноўнікі не нясуць. А там, дзе няма адказнасці, узнікае карупцыя. Толькі на будаўніцтве аб’ектаў сельскагаспадарчай вытворчасці, жылля раскрадаецца да 30% фінансавых сродкаў, выдзяляемых з дзяржбюджэту. Гэта ўсё пачынаецца з размяшчэння заказаў на праектаванне аб’ектаў і працягваецца пры прыняцці рашэнняў аб прадастаўленні права на будаўніцтва аб’ектаў, закупцы матэрыялаў, абсталявання, закупцы пагалоўя для напаўнення комплексаў і т.д.

У выніку падобных безадказных рашэнняў мы маем нярэдка выпадкі, што да гэтай пары жыллё, пабудаванае колькі год таму на сяле, стаіць не заселеным. Ёсць прыклады, калі падобныя домікі былі знесены пасля ўвядзення іх у строй, але там ні дня не жылі людзі. Ёсць шмат пытанняў і па размеркаванні падобнага жылля, калі яно ператвараецца ў дачныя дамы для чыноўнікаў, пражываючых у гарадах.

Асноўнай “кармушкай” для чынавенства з’яўляецца магчымасць па размяшчэнню заказаў для закупкі абсталявання, матэрыялаў, семян, нецеляў (для запаўнення комплексаў буйной рагатай жывёлы) за мяжой з умовай разліку валютай. У выніку, замест пародзістых нецеляў у краіну завозяцца выбракаваныя жывёлы, не адпавядаючыя неабходным якасцям. І, нярэдка, у выніку неспрыяльных умоў утрымання, праз 2-3 гады яны выбракоўваюцца ўжо і ў нас для здачы на мясакамбінат.

Для беларускіх кантралюючых, праваахоўных органаў гэта аграмаднейшае “поле” для работы, але, нажаль, дадзеныя пытанні найчасцей па незразумелых прычынах застаюцца па-за іх увагай.

Нязменным у плане

*(Заканчэнне на ст. 7)*

## Рыгор Кастусёў: Каму выгодна ўтрымліваць гэтую прорву?

(Заканчэнне. Пачатак на ст. 5, 6)

плане інвеставання сяла застаецца падыход кіраўніцтва краіны і на бягучае 5-годдзе. Нязменным, відаць, застанецца і падыход чыноўнікаў да працэсу размеркавання і расходвання гэтых сродкаў.

Указам прэзідэнта РБ № 342 ад 1 жніўня 2011 года зацверджана новая дзяржаўная прграма ўстойлівага развіцця сяла на 2011-2015 гады. На рэалізацыю Праграмы плануецца выдзяленне 29,8 трлн. руб. з бюджэту краіны , у тым ліку 27 трлн. — на развіццё вытворчай сферы, 2,8 трлн. — сацыяльнай. Адным з прыярытэтных накірункаў дадзенай праграмы з'яўляецца ўмацаванне і разіццё эканомікі арганізацый АПК шляхам удасканалення цэнаўтварэння, дзяржаўнай падтрымкі структур АПК, зблізжэнне і выраўноўванне падаткаабкладання з краінамі — удзельніцамі Мытнага саюза, аптымізацыі страт, аздараўленню фінансавага стану аргнізацый і іншых механізмаў.

Здаецца, і неблагія намеры. Але не паспелі засохнуць чарнілы на падпісаным указе за № 342, як беларускае чынавенства імкліва ўзялося за самую "цяжкую працу" — распіл "бабла". Так склалася, што найлепшыя поспехі ў гэтым плане маюць шклоўскія чыноўнікі. Як вядома, Шклоўскаму раёну надаецца асаблівая ўвага, тут пабудаваны і будуюцца каля двух дзесяткаў разнастайных новых жывёлагадоўчых аб'ектаў, а для іх запаўнення неабходна мець пагалоўе. І калі яго няма, то прымаецца рашэнне аб закупе неабходнай колькасці жывёлы ў іншым рэгіёне нашай краіны або за яе межамі. Кіраўніцтвам Шклоўскага раёна было прынята рашэнне аб закупе нецелей за выдзеленыя дзяржаўныя сродкі ажно ў Сербіі. Каля 1 млн. долараў праз адзін з расійскіх банкаў і было праплочана сербскаму боку. Прайшло ўжо колькі месяцаў, але да гэтай пары ні нецелей, ні грошай. Шклоўскім РАУС узбуджана крымінальная справа, але нават і падазраваныя да гэтай пары не знойдзены.

І падобнае творыцца ў Шклоўскім раёне, да якога асаблівая ўвага і з боку кантралюючых органаў, і з боку кіраўніцтва краіны. А што ж тады робіцца ў іншых раёнах?

Калі справы ў сельскай гаспадарцы будуць і надалей развівацца ў падобным рэчышчы, то не збыцца марам А.Лукашэнкі аб дасягненні да канца бягучай пяцігодкі 7 млрд. долараў у экспарце сельгаспрадукцыі, і не станем мы ніколі, як ён марыць, багатымі, не зажывём у дастатку, не забудзем, што такое недахоп валюты. А сельская гаспадарка Беларусі так і застанецца той бяздоннай прорвай, якая кожны год будзе патрабаваць і патрабаваць усё новых і новых фінансавых сродкаў.

### Только факты

*В Шкловском районе сейчас расследуется уголовное дело в отношении должностных лиц, занимающихся закупкой крупно-рогатого скота в Сербии. Ими было истрачено 17 млрд.рублей. Животные же на фермы района так и не поступили. На имущество виновных в сумме 5 млрд.рублей сейчас наложен арест. В качестве подозреваемых по делу проходят бывшие начальник управления сельского хозяйства райисполкома и руководитель одного из хозяйств района. В одном из следующих номеров "Паходні" мы напишем об этом громком деле более подробно.*

## Алег Мяцеліца: "Увага з боку беларускіх спецслужбаў сапраўды ёсць"



*Алег Мяцеліца*

Кіраўнік Беларускага палітычнага прадстаўніцтва ў Літве Алег Мяцеліца кажа, што супрацоўнікі офіса адчуваюць увагу з боку беларускіх спецслужбаў. Таксама ён лічыць, што супрацоўнікі беларускіх спеслужбаў маглі мець дачыненне да крадзяжу грошай і дакументаў з яго ўласнага аўтамабіля.

"Напярэдадні Калядаў у мяне ў Вільні з машыны скралі грошы, пашпарт, іншыя дакументы, у тым ліку і на аўтамабіль, - кажа Алег Мяцеліца. - Разбілі шкло ў машыне і забралі, да гэтага часу яны не знойдзеныя. Я не выключаю, што гэта мог быць нехта з супрацоўнікаў спеслужбаў, бо забралі не толькі грошы, але і дакументы, якія звычайным злодзеям мала цікавыя. Тым больш, што злодзей ведаў, дзе іх шукаць".

Па словах Алега Мяцеліцы, адчуваюць павышаную цікаўнасць да сябе і іншыя супрацоўнікі прадстаўніцтва:

"Павышаную цікаўнасць да сябе збоку нейкіх незразумелых асобаў адчуваюць і іншыя супрацоўнікі нашага прадстаўніцтва. Дарэчы, на сталай аснове ў нас у офісе працуе чатыры чалавекі, яшчэ два актывісты перыядычна

(Заканчэнне на ст. 8)

## Алег Мяцеліца: “Увага з боку беларускіх спецслужбаў сапраўды ёсць”

(Заканчэнне. Пачатак на ст. 7)

аказваюць дапамогу. Калі я казаў карэспандэнту газеты Lietuvos Rytas пра 20 чалавек, то меў на ўвазе, што ў Вільні стала пражывае каля 20 актывістаў беларускіх дэмакратычных арганізацый, якія былі вымушаны з’ехаць з Беларусі, каб пазбегнуць пераследу па палітычных матывах. Ён мяне проста не зусім зразумеў”, - выказаў сваё меркаванне Алег.

Таксама Алег Мяцеліца не выключае, што зараз яму давядзецца прасіць палітычнага прытулку ў Літве. Між тым раней грамадскі актывіст казаў, што ў хуткім часе вернецца на радзіму.

“Каб аднавіць пашпарт, трэба ехаць у Беларусь, аднак, на маю думку і думку маіх сяброў, для мяне гэта ў сучасных умовах небяспечна. Таму, хутчэй за ўсё, давядзецца прасіць палітычнага прытулку”.

Падчас мінулагодняй выбарчай кампаніі грамадскі актывіст з гарадскога пасёлка Бялынічы Алег Мяцеліца актыўна працаваў у камандзе кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева, з’яўляўся яго даверанай асобай. Пасля разгону Плошчы 19 снежня 2010 года ён разам з некалькімі іншымі актывістамі перадвыбарчага штаба Някляева з’ехаў спачатку ў Расію, а потым перабраўся ў Літву. У Вільні Алег разам з іншымі палітуцекачамі актыўна працаваў над стварэннем палітычнага прадстаўніцтва Беларусі ў Літве, ладзіў у замежжы разнастайныя акцыі ў падтрымку беларускіх палітвязняў. Зараз наш зямляк Алег Мяцеліца з’яўляецца кіраўніком гэтага прадстаўніцтва.

*Яна Войтава*

## У Шклоўскай выпраўленчай калоніі № 17 з’явіўся яшчэ адзін будынак для ўтрымання асуджаных

Перапрафіляваны ў жылое памяшканне новы двухпавярховы будынак, дзе раней месцілась швейная вытворчасць.

Вытворчы цэх перапрафіляваны ў жылыя памяшканні ў сціслыя тэрміны, паведамляе шклоўская раённая газета “Ударны фронт”. Дзякуючы такой рэканструкцыі сто сорак зняволеных будуць размешчаны ў новым будынку. Плануецца, што там будуць непасрэдна пражываць асуджаныя, якія працуюць у стало-вай, лазнева-пральным камбінаце і пекарні шклоўскай выпраўленчай калоніі № 17.

У шклоўскай калоніі № 17 адбывалі пакаранне шэраг беларускіх палітвязняў, у тым ліку былы кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Мікалай Статкевіч.

Умовы ўтрымання ў гэтай установе лічацца даволі жорсткімі.

Увядзенне ў эксплуатацыю новага памяшкання для асуджаных у ВК № 17 дазволіць павялічыць колькасць зняволеных, якія будуць утрымлівацца за кратамі ў гэтай установе. Па колькасці зняволеных на душу насельніцтва Рэспубліка Беларусь знаходзіцца ў свеце на лідзіруючых пазіцыях.

*Багдан Іваноў*

## Апошні вэтэран першай сусветнай вайны Флорэнс Грын памерла ў Вялікабрытаніі ў веку 110 гадоў



*Флорэнс Грын*

Як адзначае BBC, жанчына не дажыла двух тыдняў да свайго 111-га дня нараджэння. Грын памерла ў сне ў ноч з суботы на нядзелю ў доме састарэлых у горадзе Кінгс Лін у англійскім графстве Норфалк.

Жанчына не брала ўдзел у баявых дзеяннях, але працавала афіцыянткай Каралеўскіх Ваенна-Паветраных Сілаў.

Апошні удзельнік баявых дзеянняў у гады першай сусветнай вайны — аўстраліец Клод Шулз — памёр летась.

## Такая вот зарплата




Средняя заработная плата по народному хозяйству Белыничского района в январе-декабре 2011 года составила Br1610,3 тыс. В том числе средняя заработная плата в декабре сложилась на уровне Br2311,5 тыс. По сравнению с аналогичными периодами 2010 года темп роста номинальной заработной платы составил 155,9% и 178,1% соответственно.

ПАХОДНЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна

Бялыніцкі раён, в. В.Машчаніца. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 12.02. 2012 г. у 18-00.